


ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14
Цана: Нямеччына: на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; ЗША і Канада: на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. Ангельшчына й Аўстралія: 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. Бэльгія: 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. Францыя: 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. Аргентына: 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND"

№ 22 (458) — Нядзеля, 31 травеня 1959 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 13


# Жэнэўская канфэрэнцыя

Навязваючы да таго, што было сказана ў папярэднім нумары «Б-ны», трэба сьцьвердзіць, што аднак Кув дэ Мюрвіль крыху памыліўся, бо насупераак прадбачваньням, Грамыка задаволіўся круглым сталом і даволі хутка зрэзыгнаваў з дамаганьняў удзелу ў канфэрэнцыі Польшчы, Чэхаславаччыны й абедзьвюх Нямеччынаў. Гэта ня значыць, што Грамыка ў кажную хвіліну ня вернецца да гэтых пытаньняў, аднак пакульшто ад працэдуральных спрэчак канфэрэнцыя магла перайсьці да галоўных праблемаў. Але аднача́сна з гэтым пачаліся камплікацыі, бо абыдва бакі выступілі з сваімі плянамі разьвязаньня крызысу, якія так супрацьлежныя, што цяжка навет якое небудзь кампраміснае разьвязаньне.

Заходнія дзяржавы да апошняга моманту трымалі свае пляны ў сакрэце, але, калі ўканцы выкажылі свае карты на стол, выявілася, што ў іх няшмат козыраў. Абодвы — як заходні, так і савецкі — пляны ня новыя, а толькі крыху змадуляваныя. Прыкладам, у заходнім пляне мы бачым выразныя ўступкі бальшавіком у справе агульнанямецкіх свабодных выбараў. Заместа, каб рэалізацыю аб'яднаньня Нямеччыны пачынаць ад найбольш дэмакратычнага й справядлівага спосабу — свабоднага волевыяўленьня народу, — плян прадбачвае выбары як завяршэньне доўгага, бо ажно трыццацімесячнага, пэрыяду перамоваў паміж двума нямецкімі ўрадамі.

У заходнім пляне выразна вычуваецца імкненьне палажыць у як найдаўжэйшы мяшок усю справу. А можа ў міжчасе нешта здарыцца... Усё-ж гэтая палітыка нагадвае страўса, бо разьлічваць на цуды — ніякая палітыка. Калі 5 гадоў таму бальшавікоў можна было прымусіць да ўступак, дык сяньня гэта вельмі цяжка, а за 2 з палавінай гады будзе яшчэ цяжэй.

Як можна было прадбачыць, каб не дражніць Масквы, заходнія дзяржавы не дамагаюцца вызваленьня краінаў усходняй Эўропы. А гэта можна разглядаць у камплексе усеэўрапэйскай бясьпекі, навет абмінаючы аспэкт маральны. Праўда, у адным з сваіх выступленьняў Дзяржаўны Сакратар Гэртэр прыгадаў аб падпарадкаваньні Маскве гэтых краінаў, аднак зрабіў гэта у так мяккай форме, што Грамыка не зьвярнуў увагі.

Усё-ж навет гэты вадзяністы плян Захаду Хрушчоў адкінуў катэгарычна, згаджаючыся на дыскусію толькі над пэўнымі «прыймальнымі» фрагмэнтамі. З свайго боку заходнія міністры адкідаюць плян Грамыкі. Разыходжаньні паміж абыдвума плянамі так вялікія, што нельга ўявіць кампрамісу паміж імі. Таму прадбачваецца, што ў хуткім часе канфэрэнцыя можа зайсьці ў тупік, і дыпляматы будуць шукаць нейкага прыймальнага разьвязаньня ўжо не праблемаў, але самой канфэрэнцыі.

Адно відавочнае ёсьць тое, што й Грамыка ня імкнецца да зрыву цяперашняй Жэнэўскай нарады. Ён ведае, што ў выпадку зрыву, цяжка было-б дабіцца сустрэчы на «найвышэйшым узроўні», чаго так доўга дамагаюцца бальшавікі. Хрушчоў не бяз пэўнай слушнасьці разважае, што калі нарада міністраў ня дасьць вынікаў — трагэдыя не вялікая, але калі-б сустрэча кіраўнікоў дзяржаваў была бясплённай і скончылася ў пустую — гэта магло-б быць катастрафальным. Рэч зразумелая, кіраўнікі заходніх дзяржаваў будуць намагацца за ўсякую цану не дапусьціць да гэтага, і вось на гэтым спэкулюе Масква, што там будзе нагода прыцісну́ць Захад да муру. Заходнія дыпляматы добра гэта разумеюць, і таму, апрача Ангельцаў, на канфэрэнцыю кіраўнікоў дзяржаваў ідуць вельмі неахвотна. Яны хацелі-б, каб міністры выпрацавалі формулы пагадненьня, а эвэнтуальная канфэрэнцыя на найвышэйшым узроўні толькі іх выгладзіла і зацьвердзіла. Аднак бальшавікі ўпартыя і могуць дабіцца свайго.

Што-ж да цяперашняй Жэнэўскай нарады, дык можна зарызыкаваць прыпушчэньне, што ў адзін дзень міністры будуць змушаныя сьцьвердзіць, што дагаварыцца няма магчымасьці і прыдумаюць нейкую формулу, якой, як фіговым лістком, саромліва прыкрыюць свае няўдачы й разьедуцца.

пс

# Аб нарадзе чэкістых

18-га травеня маскоўскае радыё паведаміла, што «гэтымі днямі адбылася ўсесаюзная нарада кіруючых працаўнікоў органаў Дзяржаўнай Бясьпекі». У гэтай нарадзе бралі ўдзел: сябра Прэзыдыюму й сакратар ЦК КПСС Кірычэнка, маршал Маліноўскі, старшыня Вярхоўнага Суду СССР Горкін і іншыя.

Прысутнасьць старшыні Вярхоўнага Суду наводзіць на сумны роздум. У кажнай запраўды дэмакратычнай дзяржаве ёсьць тры галоўныя органы ўлады: законадаўчы ворган — гэта значыць Парлямант, выканаўчы — урад, і незалежны ад гэтых органаў — Суд. І таму ніякі прадстаўнік незалежнага судаўніцтва не пайшоў-бы на нараду працаўнікоў паліцыі. А Горкін — старшыня Вярхоўнага Суду — пайшоў. І гэта выразна гаворыць аб тым, што савецкія судовыя органы, ня гледзячы на аблыжныя дэклярацыі аб правасудзьдзі, падпарадкаваныя, як і дагэтуль, органам ураду й бясьпекі.

Але вернемся да прыгаданай нарады. Ня будзем зьвяртаць увагі на нізкія паклоны й выказваньні «любові» і «адмысловай удзячнасьці» Хрушчову, хоць гэта й надта нагадвае рабскае нізкапаклоньніцтва з часоў Сталіна. Але вось характэрная фраза з рэзалюцыі:

«Мы, савецкія чэкістыя, вельмі добра разумеем, што зьменшаньне карных функцыяў унутры краіны зусім не азначае, што ў нас цяпер менш справаў, што паслабелі дзеяньні нашых органаў...»

Пераклаўшы гэта ў простую мову мы прачытаем: «Мы, савецкія чэкістыя, разумеем тактычныя манэўры «вернага вучня Леніна і Сталіна» — Хрушчова, але мы верым, што прыдзе час, калі ў нашых падвалах ізноў затрашчаць наганы й мы зноў будзем мець досыць працы». Асьвятчаньне характэрнае, і вельмі-ж непацяшальнае...

У гэтым звароце таксама гаворыцца, што «пад беспасярэднім кіраўніцтвам ЦК КПСС і асабістым таварыша Хрушчова, у органах дзяржаўнай Бясьпекі зьлікфідаваныя вынікі варожай дзейнасьці Бэрыі й ягоных падручных.» За гэты камплімэнт Хрушчоў павінен быў-бы абразіцца, бо, як вынікае з прыгаданага, «пад асабістым кіраўніцтвам» Хрушчова была зробленая гэтак званая «мокрая справа». Але найбольш нас трывожыць у прыгаданым звароце чэкістых асьветчаньне, што «чэкістыя і далей у сваю дзейнасьць будуць уносіць стыль і мэтады працы выдатнага бальшавіка-ленінца Дзяржынскага».

Чым-жа можна больш палохаць ня толькі падсавецкага грамадзяніна, але й наагул сьведамага чалавека, як ня ценем крывавага Дзяржынскага, Дзяржынскі — хворы маньяк, фанатык, садысты, якога бальшавікі ўпісалі ў лік сваіх «сьвятых». Дзяржынскі — арганізатар і шматгадовы кіраўнік жудаснай машыны тэрору — ЧК. Дзяржынскі, — першы Тарквэмада бальшавіцкай інквізыцыі, якая сваёю жорсткасьцю ня мела й ня мае роўнай у сьвеце... І вось цяпер — у травені 59-га году, на сваёй нарадзе бальшавіцкія чэкістыя забавязваюцца працаваць у стылі й мэтадамі крывавага Дзяржынскага. І тут будзе на месцы прыгадаць аб гэтым стылі й мэтадах.

У 1918-ым годзе, на адным з паседжаньняў Саўнаркому, Ленін, паводля свайго звычаю падчас такіх паседжаньняў думаць аб нечым іншым, пераслаў Дзяржынскаму шматок паперы з пытаньнем: «Колькі ў вас на Лубянцы злосных контррэвалюцыянэраў?» Дзяржынскі адпісаў Леніну: «Каля 1500». Ленін, які меў звычай кажную прачытаную паперку адзначаць крыжыкам, аўтаматычна паставіў крыжык. Пабачыўшы гэта, Дзяржынскі ўстаў і выйшаў з паседжаньня. Назаўтрае сталася ведамым, што на працягу мінулае ночы Дзяржынскі расстраляў гэтых 1500 чалавек. Бальшавікі тлумачылі гэта простай памылкай Дзяржынскага: Ленін паставіў крыжык, значыцца — усіх «у расход».

Дзяржынскі выдумаў лёзунг: «Кажны камуністы мусіць быць чэкістым». Такіх


(Заканчэньне на 2-ой бач.)


# Ляўрэат „міру"

16-га травеня ў Маскве, у Вялікім Крамлёўскім палацы, адбылося чарговае відовішча. Афіцыйна гэта называлася ўручэньнем Хрушчову «міжнароднай ленінскай прэміі за замацаваньне міру паміж народамі».

Давайце, грамадзяне, задумаемся над гэтым здарэньнем. Што ўсплывае ў нашай сьведамасьці пры ўяўленьні таго, што Хрушчоў накладае на сябе рызы найбольшага ў сьвеце абаронцы міру?.. Той, у каго розум працуе нармальна, у каго сьведамасьць не спараліжавана бесьперапыннай аднабокавай прапагандай, напэўна толькі гіранічна ўсьміхнецца, пабачыўшы нармальнае ў савецкіх умовах зьявішча. Тыя-ж, хто на працягу даўгога часу або й цэлага свайго жыцьця пазбаўлены магчымасьці параўнаньня й зданы на ласку й няласку хвальшывай дыялектыкі магчыма падумае, што так, напэўна, трэба, калі Хрушчоў гэтага жадае... Таму варта хоць коратка прыглядзіцца да таго, у якім дачыненьні знаходзяцца гэтыя дваназоўнікі — Хрушчоў і мір, мір — ня толькі паміж народамі, але мір наагул. А з паняцьцем «мір» цесна зьвязаныя й іншыя паняцьці, як «чалавечнасьць», «гуманнасьць». Што-ж супольнае з усім гэтым мае Хрушчоў?

Напачатку адзначым, што Хрушчоў на працягу ўсяе свае бальшавіцкае кар'еры ведамы, як безаглядны тэрарысты й брутальны зьнішчальнік усякае апазыцыі да бальшавіцкае сыстэмы, а таксама верны слуга масавага забойцы Сталіна. Вось некаторыя факты:

У 1919 годзе, у часы змаганьня з белагвардзейшчынай, ён даваў загады расстрэльваць ваеннапалонных. Пазьней падтрымоўваў Сталіна пры ліквідацыі трацкістых. Сталін адудзячваў яму за гэта, шпарка высоўваючы яго ўверх па партыйнай герархічнай драбіне. Гэтая ўзаемная падтрымка трывала аж да сьмерці дыктатара.

У 1937 годзе, у пэрыяд жорсткага паліцыйнага тэрору, на Маскоўскай гарадзкой канфэрэнцыі ВКП(б) ён гаварыў: «Работніцкая кляса і ўсе працоўныя нашай краіны дамагліся вялікіх перамогаў сацыялізму, дзякуючы мудрасьці, дзякуючы далёкабачнасьці, нявычарпальнай энэргіі вялікага прадаўжальніка справы Леніна, правадыра народаў СССР, прыяцеля працоўных усяго сьвету — таварыша Сталіна!..»

У 1938 годзе Хрушчова выбіраюць у сябры палітбюро й накіроўваюць на Украіну для правядзеньня чысткі. У студзені 1938 году, дзякуючы энэргічнай падтрымцы Сталіна, яго выбіраюць першым сакратаром ЦК КП(б) Украіны. Чыстка, праведзеная Хрушчовам на Ўкраіне ў асяродзьдзі гэтак званых украінскіх буржуазных нацыяналістых, сваёй жорсткасьцяй і маштабамі перавышала ўсе ягоныя папярэднія расправы.

Вось Хрушчоў — ляўрэат «міру» — як чалавек!

У міжнародных дачыненьнях, ад якіх справа міру ў сьвеце залежыць у першую чаргу, Хрушчоў выявіў сябе ўсім, толькі не абаронцам міру. Пасьля сьмерці дыктатара Сталіна, заняўшы ягонае месца ягонымі-ж мэтадамі, Хрушчоў зьвярнуў на свайго настаўніка ўсю віну за супольныя злачынствы перад падсавецкімі народамі, але апраўдаў і далей апраўдвае ўсе злачынствы Сталіна ў міжнароднай палітыцы, злачынствы супраць сусьветнага міру. Зганіўшы Сталіна за тое, што той не прадбачыў нападу Гітлера на СССР, Хрушчоў і да сяньня ўважае «прагрэсыўным зьявішчам» пакт Молатава—Рыбэнтропа, які спрычыніўся ня толькі да гэтага нападу, але й да разьвязаньня Другой сусьветнай вайны. Ён не асудзіў таксама ніводнай крывавай падзеі ў цэнтральнай Эўропе, на Блізкім і Далёкім Усходзе, ніводнага міжнароднага напружаньня, плянаваных, выконваных і падтрымоўваных Сталінам пасьля Другой сусьветнай вайны.

Цяпер, калі справа вайны й міру ляжыць ўжо ў ягоных уласных руках (і толькі ў ягоных), Хрушчоў застаецца пасьлядоўным прадаўжальнікам вучэньняў і палітыкі сваіх папярэднікаў. Калі некаторыя камуністыя ўважаюць, што будаваць сацыялізм у сваіх краінах можна больш гуманным шляхам, без масавых забойстваў, дэпартацыяў і насільства, у вачох Хрушчова яны становяцца «рэвізіяністымі», «ворагамі сацыялізму», «лёкаямі буржуазіі». Ён-жа сам трымаецца старых лёзунгаў, паводля якіх міжнародная камуністычная палітыка павінна кіравацца, а савецкая кіруецца. адзіным канонам — «сусьветнай пралетарскай рэвалюцыяй», гэта значыць сусьветным камуністычным панаваньнем. Ад гэтай мэты Хрушчоў не адступае ні на крок. Ведаючы, што нідзе такая рэвалюцыя не адбылася ўласнымі сіламі народу, без дапамогі савецкіх


(Заканчэньне на 2-ой бач.)


# Год намаганьняў Дэ Голя

Год таму, 13-га травеня 58-га году, у Альжыры адбыўся пераварот, канчальным вынікам якога быў прыход да ўлады генэрала дэ Голя. У сувязі з гэтай гадавінай лёнданская газэта «Таймс» апублікавала артыкул свайго парыскага карэспандэнта, які мае назоў «Год намаганьняў Дэ Голя».

«Дзень 13-га травеня 58-га году, першая гадавіна якога абвешчаная французскім урадам афіцыйным сьвятам, — піша газэта, — значыў больш, чымся толькі ўстанаўленьне новага рэжыму ў Францыі. Падзеі 13-га травеня 58-га году стварылі ў мусульман у Альжыры адчуваньне, быццам штосьці запраўды зьмянілася: што радасныя натоўпы эўрапэйцаў і мусульманаў, якія запаўнялі ў той час вуліцы й плошчы гарадоў і вёсак, аб'яднаныя ідэяй братэрства — былі запраўды праўдзівымі вяшчунамі новай эры».

Газэта «Таймс» зазначае, што гэтае чаканьне вялікіх зьменаў было выкліканае перш за ўсё паваротам да ўлады генэрала Дэ Голя.

«Аднак цуд, у які шмат хто сьлепа верыў, — піша «Таймс», — не адбыўся, ня гледзячы на тое, што генэрал Дэ Голь узьняў прэстыж Францыі ў вачох усяго сьвету. Вайна ў Альжыры працягваецца. Некалькі сотняў тысяч францускіх вайскоўцаў, як і раней, знаходзяцца ў Альжыры. Выдаткі, якія выклікае вайна ў Альжыры, ляжаць як і раней вялікім цяжарам на эканоміцы Францыі».

«Што-ж фактычна прынёс мінулы год Альжыру?» — пытаецца газэта «Таймс». Каб адказаць на гэтае пытаньне аўтар артыкулу дае кароткі аналіз таго палажэньня, якое існавала ў Францыі ў чэрвені мінулага году, калі генэрал Дэ Голь прыйшоў да ўлады. Аўтар зазначае, што Дэ Голю перш за ўсё давялося аднавіць больш-менш нармальнае палажэньне, гэта значыць абмежаваць палітычную актыўнасьць арміі й нэўтралізаваць францускіх экстрэмістых у Альжыры, якія, паводля слоў газэты «агітуючы за пераварот Дэ Голя да ўлады памылкова ўважалі, што пасьля гэтага яны будуць карыстацца ў Альжыры пераважным уплывам.

«Гэтыя захады, — як піша газэта «Таймс», — суправаджаліся нявыразнымі выказваньнямі адносна будучага Альжыру, якія выклікалі неспакой сярод сяброў, так і сярод ворагаў Дэ Голя. Дэ Голь заявіў, напрыклад, што палітычны лёс Альжыру — у самым Альжыры» і яўна ўнікаў вымаўляць слова «аб'яднаньне». «Але гэтая неакрэсьленнасьць выразаў, калі не самой думкі, — піша газэта «Таймс», — пакідала рукі Дэ Голя разьвязанымі».

«Палітыка францускага ўраду ў дачыненьні да Альжыру, — зазначае далей «Таймс», — атрымала больш канкрэтны выраз у кастрычніку, калі Дэ Голь выступіў у Канстанціне. Ён гаварыў аб пяцігадовым пляне эканамічнага й сацыяльнага разьвіцьця, аб роўнасьці магчымасьцяў для мусульманаў і эўрапэйцаў, аб плянах будаўніцтва й аб сельска-гаспадарчых рэформах.

«Генэрал Дэ Голь зрабіў тое, чаго не адважаўся рабіць да яго ніводзін францускі ўрад: ён зьвяртаўся непасярэдня да альжырскага Нацыянальнага Вызвольнага Фронту. Ад кастрычніка мінулага году Дэ Голь некалькі разоў прапанаваў мір, запрашаючы лідэраў альжырскага Вызвольнага Фронту ў Парыж дзеля абмеркаваньня ўмоваў замірэньня. Гэты заклік застаўся безадказным і вайна працягвалася».

Газэта «Таймс» канстатуе, што палажэньне ў Альжыры ў ваенным сэнсе як быццам істотна зьмянілася. Новы галоўнакамандуючы францускімі збройнымі сіламі ў Альжыры генэрал Шаль канцэнтруе войска ў васобных месцах, робячы інтэнсыўна апэрацыі ў абмежаваных раёнах. «Такога роду тактыка, — зазначае «Таймс», — поўнасьцяй апраўдвае сябе, асабліва ў горных раёнах, дзе палажэньне было асабліва цяжкім. Апрача таго пабудова ўздоўж туніскай граніцы электрыфікаваных загародаў значна зьменшыла даставу зброі й падмацаваньняў людзьмі з Тунісу».

Аднак, прагрэсу ў ваенным дачыненьні, як зазначае «Таймс», не адпавядаюць дасягненьні ў палітычным дачыненьні. Надзеі Дэ Голя, які ставіў сваёй мэтай вылучэньне новай мусульманскай эліты шляхам выбараў і з дапамогай эканамічнага й сацыяльнага разьвіцьця краіны. не апраўдаліся. Паводля слоў газэты «Таймс», мусульманскія дэпутаты, выбраныя ў лістападзе мінулага году ў Нацыянальны Сход, не зьяўляюцца носьбітамі тых ідэяў, якія характэрныя для маладых адукаваных мусульманаў.

«Аднак, — зазначае на заканчэньне лёнданская газэта, — ня гледзячы на тое, што захапленьне, якія ўзьніклі ў травенськія дні «братаньня» мінулага году крыху астылі, вера мусульман у Дэ Голя, у ягонае імя й сілу засталася пасутнасьці непахіснай».

# Мэтады савецкай разьведкі

Пяць гадоў таму — у лютым 1954 году — працаўнік савецкага Камітэту Дзяржаўнай Бясьпекі, маёр Пётр Дзерабін зьвярнуўся да амэрыканскіх вайсковых уладаў у Вене з просьбай даць яму права палітычнага ўцекача. Аб значэньні гэтага, на першы пагляд не нязвычайнага, факту гаворыць хоць-бы тое, што вестка аб пераходзе Дзерабіна зьявілася ў заходнім друку толькі сёлета. Але Дзерабін ня быў простым перабежчыкам. Ягоны пераход спрычыніў дый спрычыняе савецкай разьведцы нямала клопатаў.

Сваім пераходам Пётр Дзерабін спыніў бліскучую кар'еру. Ён мог з поўнымі падставамі спадзявацца, што аднаго дня ён станецца высокім партыйным апаратчыкам, а навет і сябрам ЦК КПСС. Матар'яльных матываў дзеля пераходу ён таксама ня меў: будучы кіраўніком савецкае контраразьведкі ў Вене, ён атрымоўваў 4 200 рублёў у месяц; у ягоным распараджаньні ён заўсёды меў некалькі самаходаў, люксусовую кватэру, летнія дачы й безьліч іншых прывілеяў. Ён меў за сабою 10-гадовы стаж ў органах бясьпекі. З бальшавіцкага гледзішча, ягонае мінулае было беззаганным: з маладых гадоў сябра партыі; у вапошняй вайне ранены 4 разы ў змаганьні за Сталінград; скончыў вайсковую школу контраразьведкі, а таксама й Інстытут марксізму-ленінізму. Маючы такую падрыхтоўку, на працягу свае кар'еры ён не зрабіў ніводнага хвальшывага кроку, за які ён мог-бы баяцца кансэквэнцыяў. Але на працягу гэтых-жа 10-ці гадоў ён пабачыў, што яго чакае жыцьцё, якое складаецца з хлусьні й ашуканства. Праца-ж за мяжой яму як нельга лепш давяла ўсю беспадстаўнасьць цьверджаньняў аб перавагах камуністынага ладу. Так насьпела пастанова перайсьці на Захад і адкрыць перад ім карты савецкае разьведкі й контраразьведкі. Вось што ён расказвае:

Аддзел замежнай разьведкі Камітэту Дзяржаўнай Бясьпекі абымае 3 тысячы высокакваліфікаваных ахвіцэраў пры галоўнай кватэры ў Маскве ды 15 тысяч ахвіцэраў і цывільных асобаў у розных краінах сьвету. Няма бадай ніводнае краіны, дзе-б савецкая замежная разьведка або вайсковая разьведка ня мела свае сеткі. Эфэктоўнасьць іхнае працы асабліва адчулі Задзіночаныя Штаты й Вялікабрытанія. У 1952 годзе Дзерабін пачуў ад свайго шэфа, заступніка старшыні КДБ: «калі-б ня наша праца ў ЗША й Канадзе, дык Савецкі Саюз яшчэ дасюль ня меў-бы атамнае бомбы».

Калі Дзерабін быў пераведзены ў замежную контраразьведку, яго прызначылі ў аўстра-нямецкі пададзел у галоўнай кватэры. Гэты пададзел быў другім паводля вялічыні пасьля амэрыканскага. Гэта паказвае, якую ўвагу прысьвячае Савецкі Саюз нямецкамоўнаму сьвету. Пэрсанал замежнай разьведкі — гэта высокаасьвечаныя людзі зь вялікім працэнтам лінгвістых і тэхнічных спэцыялістых.

Аўстра-нямецкі пададдзел, падобна як і іншыя, мае 3 галоўныя функцыі: зьбіраньне ўсемагчымых матар'ялаў аб Нямеччыне й Аўстрыі, а таксама аб збройных сілах, разьмешчаных на іхнай тэрыторыі; сачэньне за савецкім вайсковым і дыпляматычным пэрсаналам, а таксама за ўсходня дзяржаўным апаратам; трэйцяй функцыяй савецкай контраразьведкі зьяўляецца крымінальная дзейнасьць уключна з забойствамі, тэрорам і актамі сабатажу. Тут варта спыніцца на адным інцыдэньце, у які ў свой час быў беспасярэдня замешаны Дзерабін. У 1952 годзе ўся заходняя прэса паведамляла аб захопе ў Заходнім Бэрліне актыўнага антыкамуністага, заступніка старшыні Камітэту Вольных Юрыстых доктара Лінзэ. Прыгаданы Камітэт ужо даўно стаў косткай у горле бальшавіком. Маючы безьліч сымпатыкаў па ўсё савецкай зоне Нямеччыны, ён выкрывае ўсе антыгуманныя дзеяньні камуністых ува ўсходняй Нямеччыне, ды паведамляе аб гэтых дзеяньнях у вадмысловых публікацыях.

Камітэт Вольных Юрыстых пастанавіў склікаць у жнівені 1952 году Міжнародны Кангрэс Юрыстых. Гэта перапоўніла чару цярпеньня бальшавікоў. Было пастаноўлена сарваць кангрэс адмысловай «акцыяй» супраць кіраўнікоў Камітэту Вольных Юрыстых. Дзерабіну было даручана распрацаваць плян захопу старшыні Камітэту. Плян быў зацьверджаны ў Маскве. Усё было падрыхтавана. Ды вызначаная імі ахвяра — старшыня — выехаў у Швэцыю, пакідаючы доктара Лінзэ, як выконваючага абавязкі старшыні. Такім чынам, гэты апошні й стаўся аб'ектам заплянаванае акцыі.

Уначы 7-га ліпеня 1952 году ўсходня-нямецкія працаўнікі органаў дзяржаўнае бясьпекі затрымалі заходня-бэрлінскае таксі ўва ўсходнім Бэрліне й арыштавалі шофэра, абвінаваціўшы яго ў спэкуляцыі. Заходня-бэрлінскі нумар самаходу быў перанесены на самоход органаў дзяржаўнае бясьпекі. Назаўтрае ўраньні гэты самаход стаяў ужо каля дому, дзе жыў доктар Лінзэ. У самаходзе сядзелі тры супрацоўнікі ўсходня-нямецкіх органаў дзяржаўнае бясьпекі. Калі Лінзэ выйшаў з дому, накіроўваючыся на працу, да яго падыйшоў чалавек, просячы прыкурыць. У той час, як рукі ў Лінзэ былі занятыя, двух іншых схапілі яго й намагаліся ўкінуць у самоход. Лінзэ распачна бараніўся. Калі яму давялося высунуць адну нагу з самаходу, адзін з агентаў дастаў пісталет і выстраліў у нагу. Неўзабаве самоход быў ува Ўсходнім Бэрліне. На ходніку каля дому Лінзэ застаўся толькі адзін чаравік. Хутка пасьля гэтага пачалася хваля арыштаў сымпатыкаў Камітэту Вольных Юрыстых у савецкай зоне Нямеччыны.

Задзіночаныя Штаты адразу склалі Савецкаму Саюзу войстры пратэст. Міністэрства вонкавых справаў СССР выслала запытаньне органам дзяржаўнай бясьпекі што яно павінна адказваць ці як рэагаваць на гэты пратэст. Адказ Дзерабіна — із згодай начальства — гучэў коратка: «Мы нічога ня ведаем аб гэтай справе». У гэткім духу гучэў афіцыйны адказ на пратэст Амэрыканцаў.

Тымчасам, маёр Дзерабін выслаў рапарт свайму начальству, у якім адзначалася, што доктар Лінзэ быў «прывезены ўва Ўсходні Бэрлін і арыштаваны» за «антысавецкую шпіёнскую дзейнасьць пад кіраўніцтвам Задзіночаных Штатаў»...

Шмат што яшчэ расказвае былы маёр дзяржаўнай бясьпекі Дзерабін. Але аб гэтым — у наступным нумары.

**У. Н.**

---

## АБ НАРАДЗЕ ЧЭКІСТЫХ

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

прыкладаў можна падаваць безьліч. Але вось яшчэ адзін, і вельмі-ж характэрны. Адзін з падручных Дзяржынскага — чэкісты Мізікін так ставіў справу: «Навошта гэтыя пытаньні аб паходжаньні й асьвеце? Я пайду да яго ў кухню й гляну ў гаршчок: калі там ёсьць мяса — значыцца, вораг народу й пад сьценку!..»

Вось стыль і мэтад Дзяржынскага! І сяньня — у 59-ым годзе, чэкістыя забавязваюцца працаваць у гэтым стылі й гэтымі мэтадамі! Гэта страшна. А найстрашнейшае, бадай, тое, што ў нарадзе чэкістых бралі ўдзел прадстаўнікі іншых органаў улады, як Кірічэнка, маршал Маліноўскі і навет старшыня Вярхоўнага Суду. Дык ці можна спадзявацца правасудзьдзя ў СССР?

**пс**

---

## Ляўрэат „міру"

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

танкаў (апрача этнаграфічнае Расеі), Хрушчоў, бесьперапыннымі правакацыямі і ваеннымі пагрозамі то ў вадным, то ў іншым месцы сьвету, намагаецца выклікаць ваенныя забурэньні, каб у паднходны мамэнт налажыць сваю лапу на човую тэрыторыю. Затое, калі выбухае запраўдная народная рэвалюцыя, але скіраваная супраць расейска-бальшавіцкага паняволеньня, рэвалюцыя, у якой за сваё нацыянальнае вызваленьне й незалежнасьць змагаюцца побач камуністыя зь недабіткамі буржуазіі, як гэта мела месца ў Вугоршчыне ці цяпер у Тыбэце, Хрушчоў — гэты бальшавіцкі ляўрэат «міру» — не вагаючыся топіць дзесяткі тысяч змагароў за свабоду ў моры крыві.

Цяпер у Жэнэве засядаюць міністры замежных справаў чатырох вялікіх дзяржаваў, каб адпружыць міжнароднае палажэньне. Чаго-ж гэтае палажэньне напружылася? Хто пагражае міжнародным канфліктам, вайной? Ізноў той-жа бальшавіцкі ляўрэат «міру» — Хрушчоў — сваім ультыматумам у справе Бэрліну. Бэрлін, маўляў, трэба зрабіць «свабодным», гаворыць ён. — Якім-жа гэта «свабодным» — пытаемся. — Такім, як Усходні Бэрлін, адкуль штодзённа й штогадзінна Немцы ўцякаюць у заходнюю частку гораду!? Такой «свабоды» жыхары Заходняга Бэрліну не жадаюць. Яны даказалі гэта на нядаўніх выбарах, нявыбраўшы ў самакіраўніцтва гораду ніводнага камуністага. Яны даказалі гэта, выйшаўшы пяцісоттысячным натоўпам на першамайскую дэманстрацыю, ня гледзечы на тое, што ў гэты-ж час па вуліцах усходняй часткі гораду доўгімі калёнамі грукацелі «міралюбныя» панцырныя машыны савецкай прадукцыі ўсходнянямецкіх вайсковых аддзелаў.

Мір і свабода — шляхотныя паняцьці, за ажыцьцяўленьне якіх змагаліся й аддавалі сваё жыцьцё лепшыя розумы й сэрцы чалавецтва. Таму, задавалася-б, што калі прайдзісьветы й бандыты зьняважаюць іх, апранаючы на сябе тогі носьбітаў і абаронцаў гэтых высокіх людзкіх вартасьцяў, — гэта павінна было-б выклікаць усеагульнае абурэньне. Аднак знаходзяцца дзівакі, якія словы шарлатанаў бяруць за чыстую манэту. Гэтак, напрыклад, Гіндус, нейкі Сундэрлал, выступаючы з нагоды ўручэньня Хрушчову «прэміі», настолькі захапіўся заслугамі апошняга для справы міру, што параўняў яго ледзь ня з Хрыстом. Гэта, аднак, «на дадзеным этапе» не ўваходзіла ў прэтэнзіі Хрушчова, і ён быў змушаны даваць даўгія паясьненьні... Такая скромнасьць Хрушчова тлумачыцьца магчыма тым, што, «на дадзеным этапе», напэўна-ж не безь ягонага ведама, у Маскве праходзіў зьезд чэкістых. Гэтае ведамае «прафэсыйнае аб'еднаньне»... такое дэмакратычнае права атрымала ўпяршыню!.. Але гэта менш важнае. Важнае тое, што чэкістыя публічна абвесьцілі, што яны й далей будуць — гэтым разам пад патранатам Хрушчова — заставацца вернымі мэтадам ката Дзяржынскага. Гэтая заява чэкістых — надзвычай трапны акампаніямэнт усёй камэдыі: «Хрушчоў — ангел міру», і найлепшы камэнтар да бальшавіцкай «гуманнасьці» й «міралюбнасьці».

**Ю. Д.**

---

З радыёвай хвалі «Свабода»

# Міхась Гурын-Маразоўскі

### АБО ГІСТОРЫЯ АДНАЕ БАЛЬШАВІЦКАЕ ПРАВАКАЦЫІ

У сёлетнім сакавіковым нумары часапісу «Камуніст Беларусі», у рэцэнзіі на кніжку ўспамінаў былых сяброў КПЗБ, прыгадваецца прозьвішча Міхася Гурына-Маразоўскага. «Камуніст Беларусі» гаворыць пра Гурына-Маразоўскага, як пра «ярага правакатара», які стварыў у канцы 1924 году «сэцэсію» ў КПЗБ — «антыпартыйную беларускую нацыяналістычную групу». Там-жа сказана, што гэтая «нацыяналістычная група» беларускіх камуністых у Заходняй Беларусі «намагалася выклікаць адасобленае паўстаньне ў Заходняй Беларусі, піхаючы такім чынам партыю на шлях авантурызму».

Гісторыя Міхася Гурына-Маразоўскага трагічная. Сьветчыць яна аб тым, якія цёмныя махінацыі тварылі й твораць бальшавікі на нашых землях ды бязьлітасна нішчаць яны сваіх ахвяраў, што паверылі былі ў шчырыя намеры Масквы ў дачыненьні да беларускага народу.

Міхась Маразоўскі (Гурын пачаў ён звацца пазьней) быў адным з выдатных дзеячоў Беларускае Камуністычнае Арганізацыі, якую заснаваў Усевалад Ігнатоўскі ў часе польскае акупацыі Беларусі ў 1919 годзе. На самым пачатку 20-х гадоў Маразоўскі быў рэдактарам газэты «Савецкая Беларусь». Пісаў ён таксама й на літаратурчыя тэмы. У другім нумары «Полымя» за 1923 год быў апублікаваны, прыкладам, ягоны артыкул супраць Цішкі Гартнага ў вабарону Чаротавае паэмы «Босыя на вогнішчы». У 1924 годзе, як адзначае й сёлетні сакавіковы нумар «Камуніста Беларусі», Гурын-Маразоўскі — ужо ў Заходняй Беларусі. Апынуўся ён там са згодай і на заданьне бальшавікоў, у сувязі з гэтак званым «мангольскім праектам» — бальшавіцкае правакацыі, пра якую ў савецкай Беларусі цяпер нічога не гаворыцца.

Пра «мангольскі праект» піша ў сваёй кнізе «Апазыцыя саветызацыі ў беларускай літаратуры» ведамы літаратурны крытык на эміграцыі Антон Адамовіч.

Вось-жа ў часе выбараў у польскі сойм у 1922 годзе Заходняя Беларусь выявіла моцную палітычную сьведамасьць. «Бальшавікі — піша Антон Адамовіч — неўзабаве пачалі шукаць магчымасьцяў, каб прыцягнуць Заходнюю Беларусь на свой бок. Побач з афіцыйнымі мерапрыемствамі, быў пушчаны ў ход цалкам заканспіраваны праект. Назвалі яго «мангольскім праектам» дзеля таго, што бальшавікі, быццам, паабяцалі ператварыць БССР ў «Беларускую Народную Рэспубліку» наманер «Мангольскае Народнае Рэспублікі», якая была тэарэтычна незалежнай дзяржавай пад савецкім пратэктаратам. Плян палягаў на тым, што з савецкай дапамогай беларускі нацыянальны рух падыме паўстаньне ў Заходняй Беларусі; у гэты самы час і ў Усходняй Беларусі было-б інсцэнізаванае паўстаньне. Савецкая Беларусь мела-б скарыстаць з права выхаду з Савецкага Саюзу, і дзьве часткі Беларусі стварылі-б тэарэтычна незалежную дзяржаву, падобную да «Мангольскае Народнае Рэспублікі».

Як вядома, праект гэты шмат каму падабаўся, асабліва малодшым, ды знайшоў нат сваё адлюстраваньне ў творчасьці некаторых маладых савецкіх пісьменьнікаў, як Міхась Чарот, Уладзімер Дубоўка, Хмарка. Рэалізаваць гэты праект і быў перакінуты зь Менску ў Заходнюю Беларусь, пад прозьвішчам Гурына, Міхась Маразоўскі.

Пра Гурына-Маразоўскага напісаў у сваіх «Успамінах», выдадзеных у Нью Ёрку ў 1957 годзе асобнай кніжкай, былы пасол у польскі сойм Васіль Рагуля. Апісваючы падзеі 1924 году ў Заходняй Беларусі, Васіль Рагуля піша:

«Фінансаваньне нашых школаў узяў на сябе Гурын... Гурын плянаваў субсыдыяваць навет беларускія нелегальныя пачатковыя школы. Супраць гэтага выступіў ЦК польскай камуністычнай партыі, у які ўваходзіў і Гурын. Пачаліся спрэчкі ўнутры камітэту, у выніку якіх Масква за пасярэдніцтвам Менску адклікала Гурына. Ён пастанавіў ня ехаць, гаворачы: «Я ведаю, чым гэта пахне!..» Канфлікт закончыўся выхадам Гурына з ЦК камуністычнае партыі Польшчы. Паразумеўшыся з «Грамадаю», ён вырашыў заснаваць сваю камуністычную партыю пад назовам «Камуністычная партыя Заходняе Беларусі». Ён арганізаваў тайную друкарню, у якой друкаваў свой орган «Чырвоны Сьцяг». Польскім камуністым гэта прыпала не да смаку. Яны выкрылі яе і ўварваўшыся аднойчы ў друкарню, спалілі ўсе дзераўляныя часткі, разьбілі чыгунныя й зьнішчылі рэшту. Цераз некаторы час Гурын сам быў арыштаваны й кінуты ў беластоцкую вязьніцу...»

Далей Васіль Рагуля апісвае замах на жыцьцё Гурына ў Горадні, ужо пасьля таго, як Гурын быў выпушчаны з турмы. Над ім павісла небясьпека ў сувязі з тым, што ён быў у курсе ўсіх бальшавіцкіх махінацыяў у Заходняй Беларусі

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

---

АНДРЭЙ МАКАЁНАК

10)

# Каб людзі ня журыліся

### Камэдыя ў 4-х актах

Васіль і Юля выходзяць.

**Гудзееў:** Абараніць? За якія такія заслугі?

**Самасееў:** Я колькі год свайго сьвядомага жыцьця аддаў без астатку партыі. Мяне паўраёна ведае. Я дзесяць гадоў кіраваў калгасамі. Я заўсёды быў гатовы на любую пасаду, куды-б мяне не пасылалі. І раптам адабраць партбілет? Выключыць з партыі? Ды вы-ж мяне ведаеце, таварыш Гудзееў!

**Гудзееў:** Ведаю... Але-ж не бязгрэшны? Не бязгрэшны. Такбы й выступіў: вінаваты, крытыку прызнаю, памылкі выпраўляю. Часам даводзіцца — крок наперад, а два крокі назад. Гледзячы якая абстаноўка. А ты напралом. Ня трэба было лезьці на ражон. Зарваўся ты, Самасееў. Сам вінаваты — агрэсыўна вёў сябе на сходзе, не ацаніўшы расстаноўку сіл. Пралічыўся.

**Самасееў:** Дык і вы...

**Гудзееў:** А што я?

**Самасееў:** Успомніце, я-ж ніколі вам не адмаўляў, калі трэба было што-небудзь. Заступецеся, таварыш Гудзееў, не пакідайце.

**Гудзееў:** «Заступецеся»... Гэту справу нельга дапускаць да райкому. Там я ня стану падстаўляць сваю галаву пад абух. Тут, на месцы, трэба ўладзіць усё падобраму.

**Самасееў:** На вас у мяне ўся надзея. Можа, вы сяньня заначуеце ў мяне?

**Гудзееў:** Не. Заўтра дэманстрацыя, і мне на трыбуну трэба.

**Самасееў:** Ну што-ж, бывайце, таварыш Гудзееў. (Пайшоў.)

З клюбу выходзяць Кавальчук, Грачоў, Цярэшка й Ліхтароў.

**Гудзееў** (да Кавальчука, спачуваючы Самасееву): Вы разумееце, што вы зрабілі з чалавекам? (Спагадліва.) Вы пільнуйце, каб чаго зь ім ня здарылася.

**Кавальчук:** А што зь ім можа здарыцца?

**Цярэшка:** Хіба перап'ецца?

**Грачоў:** Абыдзецца. Ён пасьля чаркі любіць добра закусіць.

**Гудзееў:** Нельга так лёгкадумна ставіцца да лёсу камуністага. Усё-ж такі ён чалавек, сям'я, дзеці... Я думаю: пагарачыліся вы.

**Ліхтароў:** Яму якраз гарачанькага й не хапала.

**Цярэшка:** А чаго там далікатнічаць!

**Гудзееў:** Самасееў, ясна, правінаваціўся, і вы правільна зрабілі, што прадраілі яго зь пясочкам. Але да райкому я-б вам ня раіў даводзіць. Навошта сьмецьце выносіць з хаты?

**Кавальчук:** Гігіена — зарука здароўя.

**Грачоў** (да Гудзеева): А чаму?

**Гудзееў:** Там будуць яго прыціскаць, а ён стане на вас капаць. А навошта вам лішнія няпрыемнасьці нажываць?

**Кавальчук** (спагадліва): І вам няпрыемнасьці могуць быць...

**Гудзееў** (не раскусіў хітрага ходу Кавальчука): І мне таксама.

**Кавальчук:** Так-бы й гаварылі.

**Ліхтароў:** Ах, вунь яно што! Самі баіцёся, а нас пужаеце? Не арыгінальна. Вы ўжо нам гразілі за тое, што мы крыху затрымалі пагашэньне крэдытаў. А ў райкоме ўсё-такі зразумелі нас, паверылі нам. Мы й дзяржаве даўгі вярнулі, і гаспадарку вывелі. І цяпер там зразумеюць нас. Людзі там з галовамі.

**Гудзееў:** Таварыш Грачоў, вы, як сакратар партарганізацыі, павінны быць больш аб'ектыўным. Выхоўваць трэба, а не рубіць з пляча. У вас і так парторганізацыя невялікая, а вы...

**Цярэшка:** Ізноў пагалоўе. Таварыш Гудзееў, наша партыя — ня фэрма! І ёй пагалоўе ня трэба! Ад Самасеева партыі карысьці, як ад таго казла — ні шэрсьці, ні малака. А клопату па горла. Яму ня партыя трэба, а партбілет. Вось як яно. Самасееў ізноў да ўлады рваўся. Ведаем мы гэтую пароду былых, незаменных! Чулі, што калгасьнікі гаварылі на сходзе? А вы яго абараняеце. Ён вам да спадобы прыйшоўся? Ды забярэце яго сабе, можаце свой партфэль насіць наперамену. І ведаеце, ня блытайцеся вы пад нагамі ў нас. Мы паважнай справай заняты. А калі будзеце перашкаджаць, то й да вас дабярэмся!

**Гудзееў:** Гэта што? Пагроза?

**Кавальчук:** Не! Гэта пакуль што вымова без занясеньня ў асабістую справу.

**Гудзееў:** Добра-ж! Запомнім! (Пасьпешна выходзіць.)

**Цярэшка:** Дык як яно, Цімафей? Правільна я сказаў, ці, можа, ня так? Усё-такі ён з раёну...

**Кавальчук:** Можа, хочаш прабачэньня папрасіць?

**Цярэшка:** Ну брат, не чакай. Я што думаў, тое й сказаў. Шчыра! Паўтарыць магу, а прабачэньня — ня будзе.

**Кавальчук:** Прынцыпова?

**Цярэшка:** А як ты думаў? Я-ж цяпер ужо ня той, што быў. Па сакрэту скажу: ад цябе навучыўся.

У клюбе шум, рогат моладзі. Уваходзіць дзед.

**Ліхтароў:** Бач, як разгулялася наша моладзь. Можа, пойдзем глянем ды ўспомнім маладосьць?

Усе накіраваліся ў клюб.

# Польскія сяляне й калектывізацыя

Дзевяноста пяць і сем дзесятых працэнта польскіх сялянаў — супраць калектывізацыі. На якой падставе мы падаем такія дакладныя лікі? — На аснове апытаньня, якое нядаўна правёў польскі Інстытут вывучаньня грамадзкай думкі. Вынік гэтага апытаньня быў апублікаваны ў польскім тыднёвіку «Жыце Господарчэ».

Вывучэньне грамадзкай думкі шляхам апытаньняў цяпер сталася звычайным мэтадам, якім карыстаецца польскі ўрад, каб пазнаць думку насельніцтва у тым ці іншым пытаньні. Колькі месяцаў таму у польскай прэсе гаварылаася аб думцы працоўных адносна сацыялістычнага спаборніцтва. Апытаньне на гэтую тэму было зроблена на некалькіх прамысловых прадпрыемствах у Сілезіі. Выявілася, што толькі 35 работнікаў выказалася за ўвядзеньне на іхных прадпрыемствах сыстэмы сацыялістычнага спаборніцтва.

Трэба падчыркнуць, што апытаньне адносна сацыялістычнага спаборніцтва было зробленае **пасьля** таго, калі Аб'едnaная Работніцкая Партыя прыняла пастанову, што гэтае спаборніцтва **мусіць** быць уведзенае. Вынікі апытаньня паказалі, што польскія працоўныя былі супраць пазыцыі, якую ў гэтым пытаньні заняла партыя. Усё-ж такі гэтыя няпрыхільныя для партыі вынікі апытаньня былі апублікаваныя ў партыйных газэтах.

Што-ж тычыцца калектывізацыі сельскай гаспадаркі, вынікі апытаньня таксама ня згодныя з курсам, які прыняла партыя. Як ведаем, калектывізацыя сельскай гаспадаркі ў Польшчы тэарэтычна падтрымоўваецца ўрадам, але не праводзіцца пад прымусам. Сяляне аднаасобнікі атрымоўваюць поўную падтрымку з боку дзяржавы. Аднак кіраўніцтва Польскай Аб'еднанай Работніцкай партыі у кажнай афіцыйнай заяве паўтарае, што калектывізацыя сельскай гаспадаркі застаецца неабходнай мэтай сельскагаспадарчай палітыкі партыі. Сам Гамулка неаднаразова заяўляў, што пасьля пэўнага пэрыяду далейшае павялічэньне сельскагаспадарчай прадукцыі і ўздым жыцьцёвага ўзроўню сялянаў магчымыя толькі ў рамках калектываў. Польскі Інстытут вывучэньня грамадзкай думкі напэўна-ж знае кірункі камуністычнай партыі што да праблемы сельскай гаспадаркі. Тым ня менш ён палічыў патрэбным даведацца, што аб гэтым думаюць сяляне. У студзені гэтага году такое апытаньне грамадзкай думкі было зробленае сярод польскага сялянства (Рэч зразумелая, былі апытваныя ня ўсе сяляне, але тыповыя прадстаўнікі розных групаў).

Партыя заяўляе, што самі сяляне ў хуткім часе пераканаюцца, што калектыўная гаспадарка — адзіны шлях да павялічэньня прадукцыі й такім чынам да ўздыму жыцьцёвага ўзроўню ў вёсцы. Таму сялянам было пастаўленае наступнае пытаньне: «Які, на вашую думку, лепшы шлях да павялічэньня сельскагаспадарчаай прадукцыі?«

Як паказваюць вынікі апытаньня, апублікаваныя ў польскім эканамічным тыднёвіку «Жыце Господарчэ», толькі чатыры й тры дзесятых працэнта польскіх сялянаў уважае, што ўступленьне ў калгасы, або ў прадукцыйныя каапэратывы будзе спрыяць павялічэньню прадукцыі. Рэшта-ж сялян, гэта значыць дзевяноста пяць і сем дзесятых працэнта — супраць калектывізацыі. Больш за 61 працэнт уважае, што лепш павялічыць прадукцыю ўласнымі сіламі ў сваіх прыватных гаспадарках. Яны проста заяўляюць, што калектыўныя высілкі не дадуць пазытыўных вынікаў. Даволі значная мяншыня уважае, што бадай лепшым мэтадам была-б дабраахвотная каапэрацыя заходняга тыпу.

Такім чынам вынікі апытаньня грамадзкай апініі выразныя: 95,7% польскіх сялянаў, насуперак вымогам партыі адкідаюць калектывізацыю, Яны ўважаюць за лепшае весьці прыватную гаспадарку або арганізаваць каапэратывы данскага ці галяндзкага тыпу.

Кажны сябра камуністычнай партыі, які вывучаў працы Леніна, скажа, што вынікі такога апытаньня адлюстроўваюць тыповую пазыцыю кулакоў. Але ў дадзеным выпадку такое цьверджаньне будзе беспадстаўным: справа ў тым, што сярод сялян, якіх апытаў Польскі Інстытут вывучэньня грамадзкай думкі менш за 15% такіх, якія маюць 10 або больш гэктараў зямлі. Амаль палавіна апытаных — гэта тыповыя «беднякі» — яны маюць ня больш за два або 5 гэктараў зямлі. Рэшта — «серадлякі». Польскі Інстытут вывучэньня грамадзкай думкі клясыфікаваў вынікі апытаньня так, што адразу можна зразумець, як кажная з гэтых групаў сялян адносіцца да калектывізацыі. Вынікі апытаньня зусім не пацьвярджаюць тэзісаў Леніна, якія гавораць, што сяляне «беднякі» прагнуць уступаць у калгасы.

Разгледзем гэтыя лікавыя дадзеныя. 95,7 працэнты ўсіх апытаных сялян адкідаюць калектывізацыю. А якой-жа думкі прытрымоўваюцца «беднякі»? Амаль-жа такой самай. Сярод іх працэнт праціўнікаў калектывізацыі дасягае 95,4%. І калі 61 працэнт усіх апытных сялянаў уважае за лепшае весьці прыватную гаспадарку, дык такое самае жаданьне выказвае больш за 58 працэнтаў «беднякоў». Найбольш верны пасьлядоўнік Леніна знойдзе ў гэтых ліках мала фактычных пацьверджаньняў «трохадзіннай формулы» свайго настаўніка.

У запраўднасьці апытаньне, якое правёў польскі Інстытут вывучэньня грамадзкай думкі сярод сялянаў, паказвае адну вялікую праўду, якая супярэчыць з тэорыямі Леніна. Гэтая праўда ў тым, што сяляне адносяцца наагул аднолькава да пытаньня калектывізацыі, незалежна ад таго, ці іх можна залічаць да «беднякоў», «серадлякоў» або «кулакоў» — гэта значыць незалежна ад таго, колькі яны маюць зямлі. Наўсуперак таму, што цьвердзіў Ленін «беднякі» бадай ня менш чымся «серадлякі» і «кулакі» хочуць весьці гаспадарку як аднаасобнікі. Польскай Аб'еднанай Работніцкай Партыі давядзецца лічыцца з гэтым фактам у сваёй сельска-гаспадарчай палітыцы.

## МІХАСЬ ГУРЫН-МАРАЗОЎСКІ

(Заканчэньне з 2-ой бач.)

й мог выкрыць іх. Гэтага, аднак, яму зрабіць не давялося. Васіль Рагуля піша: «Хутка я даведаўся, што Гурын быў застрэлены ў Вільні нейкім маладым чалавекам... Так скончыў закладчык КПЗБ — Гурын».

Забілі Гурына-Маразоўскага праз свайго агента бальшавікі. Спачатку паслалі яго на правакацыйную работу, а пасьля, калі ён адмовіўся быць бязвольнай марыянэткай у чужацкіх руках, яго застрэлілі. Цяпер тыя-ж самыя чужакі праз свой рупар «Камуніст Беларусі» зьняслаўліваюць імя свае ахвяры.

# Аб пошуках зялезнае руды на Беларусі

У студзені 1959 году у дакладах Акадэміі Навукаў БССР, а 11 сакавіка гэтага-ж году у «Савецкай Беларусі» зьявіўся той самы артыкул «Геалягічныя і гідрагеалягічныя перадумовы (у «Сав. Беларусі» — «Навуковыя перадумовы...») да пошукаў зялезных рудаў на тэрыторыі Беларусі» прафэсара Г. В. Багамолава і М. І. Калганава. У артыкуле аўтары пасьлядоўна даводзяць аб пэрспэктыўнасьці адкрыцьця зялезных рудаў на тэрыторыі Беларусі.

Аўтары пішуць: «... Праводжаньне шырокіх геафізычных і геалягічных дасьледваньняў ды разьведвальнае бураваньне ў межах масыву (Беларуска- Літоўскага Крышталічнага Масыву — В. З.) можа адкрыць пэрспэктывы для выяўленьня зялезных рудаў...». «...Нам здаецца дамэтным зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на арганізацыю й праводжаньне пошукаў зялезных рудаў на тэрыторыі БССР...». «... Неабходна ў пэрспэктыўных раёнах правесьці рэгіянальныя й дэталёвыя геафізычныя пошукі й арганізаваць пошукавыя бураваньні».

Добра, што гэты артыкул зьявіўся хоць у ім і нічога новага не сказана, бо як аўтарам напэўна добра ведама, гэткія думкі былі ўжо выказаныя блізу 30 гад таму. Аднак, як выглядае, справа пошукаў зялезных рудаў на тэрыторыі БССР зусім не пасунулася наперад.

На маю думку, беларускаму эміграцыйнаму чытачу будзе цікава пазнаёміцца з гэтай праблемай бліжэй. Заснаваны ў сярэдзіне 20-ых гадоў Беларускі Геалягічны Інстытут пад кіраўніцтвам ведамага беларускага геалёга, прафэсара М. Бліодухо ужо ў 1928 годзе распачаў геамагнэсавыя здымкі тэрыторыі БССР. Хутка выявілася, што ў БССР могуць быць адкрытыя новыя карысныя выкапні зялеза й інш. Думка гэта моцна падмацавалася адкрыцьцём ў 1928 на Смаленшчыне (на ўсход ад Рослаўля) значных магнэсавых анамаліяў. Для далейшага вядзеньня геалягічных пошукаў неабходна было шырака распачынаць буравальныя працы. У 1930 годзе пошукавыя працы на тэрыторыі БССР пераймае Белгеоразьведка. Распачатыя ў пачатку 30-ых гадоў магнэсарэкагнасцыроўчыя дасьледваньні тэрыторыі БССР вызначылі шэраг магнэсавых анамаліяў, прычына якіх хоць дакладна тады ня была ўстаноўленая, аднак было шмат аргумэнтаў за тое, што анамаліі зьяўляюцца працягам Курскае Магнітнае Анамаліі.

У 1934 годзе А. А. Строна апублікаваў вынікі магнэсавых разьведак некаторых частак тэрыторыі БССР. Магнэсавыя анамаліі былі выяўленыя ў наступных мясцовасьцях: моцныя анамаліі на тэрыторыі ад Віцебска да Гарадка, каля гораду Талочын, на паўднёвы-ўсход ад Чэрвеню; анамаліі сярэдняе моцы былі выяўленыя каля ст. Азярышча, каля мястэчка Сенна, на поўдзень ад Барысава; слабыя анамаліі назіраліся па плыні ракі Бабёр.

Год пазьней Строна падаў вынікі магнэсавых разьведкаў Смаленшчыны. Тут таксама былі ўстаноўленыя магнэсавыя анамаліі на значных плошчах: Рагнедзенская (найбуйнейшая ў СССР), Плохінская, Барацінская, Карачаўская, Шаблыкінская і інш.

Выяўленыя у межах БССР і ў беларускай Смаленшчыне магнэсавыя анамаліі рознае сілы, відавочна, падказалі Строну зрабіць лягічныя высновы: неадкладна пачаць вывучэньне тэрыторыі БССР комплексам геафізычных мэтадаў ды глыбінным бураваньнем.

У 1925—35 гадох магнэсавыя разьведкі ды буравальныя працы распачалі і Палякі на тэрыторыі Заходняе Беларусі (магнэсавыя здымкі й бураваньні каля Друзгенікаў, бураваньні каля Мікашэвічаў, Сенкевічаў). У выніку польскіх працаў гіпатэза аб пэрспэктыўнасьці адкрыцьця на беларускай тэрыторыі новых карысных выкапняў атрымала яшчэ большае пацьверджаньне.

Далей на працягу амаль 30-і гадоў ня раз зьяўляліся яшчэ выказваньні й артыкулы з вывадамі аб патрэбе дэталёвага сыстэматычнага дасьледваньня тэрыторыі Беларусі. Тым ня меней гэта ўсё ня выклікала ніякае рэакцыі з боку плянава-эканамічных органаў савецкае Беларусі.

Ува ўспомненым артыкуле аўтары, між іншым, кажуць, што пры праводжанні глыбокага бураваньня патрэбна было-б уваходзіць у крышталёвыя пароды глыбінёй 100 мэтраў і болей. Як ведама, у БССР робяцца паасобныя бураваньні, дык, паўстае пытаньне, чаму-ж пры гэтых бураваньнях дасюль не ўваходзілі ў крышталёвыя пароды? Анамаліі былі ведамыя, ёсьць пэрспэктыўнасьць адкрыцьця новых карысных выкапняў, дык за чым-жа затрымка? А затрымка, відавочна, за дазволам з Масквы, зь Міністэрства Геалёгіі й аховы нетраў, у якім урадавыя колы БССР ня маюць ніякага голасу. Дык, здаецца, і гэты апошні ўспомнены артыкул аб патрэбах дэталёвага дасьледваньня тэрыторыі БССР застанецца бяз увагі.

**В. Зубкоўскі**

# „Гаспадары“ загадваюць...

Чаго-чаго, а грэчкі на Беларусі сеялася шмат. На гэта было некалькі прычынаў. Першая зь іх — зямля беларуская на грэчку ды на бульбу ўрадлівая: лёгкая супясчаная, няма ў ёй чарназёмнай тлустасьці й цяжкай напластаванасьці, якія маюць урадлівыя землі нашай суседкі Ўкраіны. Гэтую збажыну любіць наш народ. Любіць грэцкую кашу добра засквараную, або з малаком. Удаваліся заўсёды й грэцкія аладкі, якія амаль ня зыходзілі із стала нашага народу.

Пасевы грэчкі выкарыстоўвалі й беларускія пчаляры. Грэчка давала добрую долю мёду пчаляром. Праўда ліповы мёд быў больш каштоўны, але ганьбы не давалася й грачавіку.

А вось так сталася, што з калгасных і саўгасных палёў зьнікліі пасевы грэчкі. З гэтай прычыны Цэнтральны Камітэт КП Беларусі й Савет міністраў БССР 16-га траўня сёлета прыняў адумыслову пастанову «Аб павялічэньні вытворчасьці грэчкі ў калгасах і саўгасах Беларускай ССР у 1959 годзе». Гэтая пастанова адзначае, што ў калгасах і саўгасах Беларускай ССР катастрафальна зьменшыліся пасяўныя плошчы грэчкі й значна зьнізілася яе ўрадлівасьць. У пастанове «непамыльныя» ЦК партыі й Савет міністраў БССР абвінавачваюць калгасы й саўгасы, што яны мала зьвяртаюць увагі на грэчку й ігнаруюць г. зв. агратэхніку, патрэбную для гэтай сельскагаспадарчай культуры. Пастанова патрабуе адводзіць пад грэчку лепшыя землі зь лепшымі папярэднікамі, якімі быццам зьяўляюцца ячмень, гарох, або пшаніца. Мала гэтага, пад грэчку павінна давацца штучнае й звычайнае ўгнаеньне. Сяўба яе павінна быць закончана не пазьней 10 чэрвеня. Патрабуецца таксама, каб на працягу лета пасевы грэчкі былі падкормлены ўгнаеньнямі й два разы праполаны, а калі яна засеяна радкамі, то тры разы між радкамі абараная, каб зьнішчыць усіх шкоднікаў. Каб грэчка дала добры ўраджай — згодна пастановы павінна быць зарганізавана «вывазка пчолапасек на пасевы й шырока ўжываць штучнае даапыленьне грэчкі».

ЦК партыі й Савет міністраў БССР забавязалі міністэрства хлебапрадуктаў, сельскай гаспадаркі, абкомы й райкомы, абвыканкомы й райвыканкомы ў 1959 годзе забясьпечыць «бязумоўнае выкананьне ўстаноўленага пляну нарыхтовак грэчкі».

Пастанова канчаецца пагрозай, што пляны прадажы хлеба дзяржаве будуць лічыцца выкананымі калгасамі толькі тады, калі побач з агульным выкананьнем плянаў нарыхтовак збожжа, будуць выкананыя і ўстаноўленыя заданьні нарыхтовак грэчкі.

Запраўды тыпічная ў савецкіх умовах пастанова! Ад беларускага калгаснага сялянства ўжо на працягу гадоў хрушчоўскага кукурузнага наступу забіраюць прысядзібныя гароды пад пасевы неўрадлівай на нашых землях кукурузы. Цяпер пад грэчку загадваюць адводзіць лепшыя ўгноеныя землі, у той час, калі яна добра родзіць і на няўгноеных лёгкіх землях, бо на штучных землях яна шугае, ідзе ў салому й не дае зерня. У пагоні за кукурузай, празьмернымі пасевамі лёну, бульбы, цукровых буракоў і іншых культураў, на Беларусі ўжо зьвялі ня толькі грэчку, але й авёс і ячмень. А цяпер патрабуюць зноў брацца за грэчку. Запраўды настаў час «безумнага вяленьня беззаконнага мучыцеля» для калгаснага сялянства, як адзначана ў царкоўных сьпевах.

**С. Б.**

**ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ НА ЧУЖЫНЕ — ГЭТА ПАКАЗЬНІК НАШАЕ ГРАМАДЗКАЕ ЖЫЦЬЦЯЗДОЛЬНАСЬЦІ Й ДАКУМЭНТАВАНЬНЕ НАШАЕ ПРАЦЫ. ТАМУ НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АНІВОДНАЕ ГРАМАДЗКАЕ ПАДЗЕІ, ЯКАЯ-Б НЯ БЫЛА АДЦЕМЛЕНА Ў БЕЛАРУСКАЙ ПРЭСЕ. ПІШЭЦЕ Ў «БАЦЬКАЎШЧЫНУ»!**

**Цярэшка:** Ну, а ты, Цімафей?

**Кавальчук:** Не, лепей я тут пасяджу, зь дзедам пагаворым.

**Дзед:** Таварыш старшыня, гэта баба мая паслала к табе. Дык ты ўжо будзь ласкаў, ня крыўдзі яе.

**Кавальчук:** За што-ж яе крыўдзіць?

**Дзед:** І мяне таксама. Дык ты прыйдзі. Кажуць, што ты гарэлкі не бярэш, дык мы ўжо спэцыяльна чырвонага віна, салодкага, паўкварты. Чым багаты, тым і рады.

**Кавальчук:** Ну што ты, дзед!

**Дзед:** Не, не, старшыня. Ты сваё слова стрымаў. Мы за табой, як за сынам. Хату нам паставіў, дык ты прыйдзі ўжо на ўходзіны. Дый сьвята заўтра. А ў нас ні сыноў, нікога. Дык ты прыйдзі, як свой, як сын.

**Кавальчук:** Калі так, прыйду.

**Дзед:** Глядзі-ж. А я пайду на пост. (Пайшоў, але ўспомніў нешта, вярнуўся.) Ты гарэлку не бярэш, дык мы чырвонага, салодкага спэцыяльна ў магазыне ўзялі.

**Кавальчук:** Дзякуй табе, дзядуня. (Зьняў шапку.) Вялікае дзякуй.

**Дзед:** І табе дзякуй. (Пайшоў.)

**Кавальчук** (адзін): Ах, стары, стары!

Зьяўляюцца Раман і Самасееў.

**Самасееў:** Вунь ён, твой крывасмок. Сядзіць і пуза гладзіць.

Раман набычыўся й падыходзіць да Кавальчука.

**Раман:** Ну, вось і я.

**Кавальчук** (рады): Раман? Вярнуўся?

**Раман** (злосна): Вярнуўся! А ты хацеў, каб я згніў там?!

**Кавальчук:** Якое глупства ты гаворыш!

**Раман:** Не, я вярнуўся! Вярнуўся пагаварыць з табой па душах.

**Кавальчук** (зразумеў яго): Ну што-ж, гавары.

**Раман:** Ты мне адкажы: праўда, што я злодзей? Што маўчыш? У цябе сын мой, Колька, пытаўся? Злодзей я ці не?

**Самасееў:** Ты ў яго спытай, дзе твой сын, Раман.

**Раман:** Дзе мой сын?

Кавальчук маўчыць. Ён ня ведае, што сказаць гэтаму п'янаму й азлобленаму чалавеку.

Маўчыш? (Крычыць) Дзе мой сын?

**Кавальчук** (спакойна, лагодна): А чаму ты ў мяне пра гэта пытаеш, Раман?

**Раман:** А ў каго мне папытаць? Хто мне адкажа?

**Кавальчук:** Я разумею цябе, Раман. Ты не гарачыся, супакойся. Я тут ня вінаваты. І дактары нічога не маглі зрабіць. Я сам быў у больніцы.

**Самасееў** (Раману): Чуеш? Ён сам быў у больніцы. Цябе ў турму, а сам за бацьку. Які ласкавы. І дачку тваю прэміяй надзяліў, каб віну перад табой загладзіць. У нявесткі гатоў узяць, абы ты змоўчаў. Купіць хоча ў цябе сынаву сьмерць.

**Кавальчук** (Самасееву): Ах, які ты падлюга!... Вось як ты хочаш са мной расквітацца! Чужымі рукамі? Чаму-ж ты, трусьлівая твая душонка, сам баішся? А? Ён-жа празь цябе ў турме сядзеў! Ты сам краў і другіх зрабіў злодзеямі! І цяпер хочаш, каб ён за цябе ў турму пайшоў?.. (Да Рамана, лагодна.) Ты, Раман, сяньня п'яны. Адкладзем нашу размову на заўтра.

**Самасееў:** Ты яго не паіў! І размову адкладваць ня будзем!

**Раман:** Правільна! Ты паіў! І размову адкладваць ня будзем. Дык што выходзіць? Вы хочаце біцца маімі рукамі? Вы паміж сабой зачалі бойку, а зь мяне шэрсьць клочкам? А сінякі мне? (Раптам крута павярнуўся да Самасеева, схапіў яго за горла і з усяго размаху ўдарыў у твар. Самасееў адляцеў.)

**Самасееў:** Каравул! Б'юць! Ратуйце! Каравул!

**Раман** (павярнуўся да Кавальчука): І з табой размову ня скончылі. Мне зь людзьмі жыць трэба! Мне людзям у вочы глядзець трэба! Як мне людзям у вочы глядзець?! Ты мне скажаш — злодзей я ці не?! (Хапае Кавальчука за грудзі.)

**Кавальчук** (спакойна ўзяў Рамана за руку): Раман! Ты сам павінен даць адказ... сабе й людзям.

**Самасееў:** Каравул! Ратуйце!

Прыбягаюць Аксіньня, Юля, Васіль, з клюбу выбеглі Цярэшка, Грачоў, Ліхтароў, Сенька-Заіка.

**Аксіньня** (кінулася да Рамана): Раман! Што ты робіш?! Раман! Што ты надумаўся? (Адцягнула яго ад Кавальчука.) А? Дурны ты! Зьвер ты! (Абняла яго за шыю.)

**Цярэшка:** Што тут здарылася?

**Самасееў:** Арыштант! Баньдзюга!

**Аксіньня** (Раману): Я ўсе вочы праплакала, ледзь дачакалася цябе, а ты йзноў туды захацеў?

**Цярэшка** (Раману): Ты што? Ты на каго руку падымаеш?

Усе абступілі Рамана.

**Кавальчук:** Церах! Пачакай!

**Аксіньня:** Старшыня! Даражэнькі! Даруй яму! З гора ён звар'яцеў!

**Кавальчук:** Супакойся, Аксіньня! Раман сяньня ня вінаваты. І яму няма чаго дараваць. Калі ён падымаў руку на калгаснае, яму дараваць не маглі. А сяньня... Ну, тут асабістыя справы. Дый нічога тут ня здарылася. Проста сустрэліся, горача памужчынску абняліся і ўсё.

ЗАСЛОНА

